Hod VIII. Listapad 1936 h. № 11.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



VILNIA

Bielaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

**Згодна з абяцаньнем, за неаплату падпіскі, высылку гэтага нумару „Шляху Моладзі“ стрымліваем для 250 асоб. Пры гэтым просім усіх на будучыню падпіску аплачываць акуратна.**

**Адміністрацыя „Шл. Мол.“**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VIII. | Вільня, Лістапад 1936 г. | № 11(97). |
| --- | --- | --- |

**Натальля Арсеньнева**

## АБАРОНА ВОСЕНІ

Нэрвы ўвосені страшаць нас совамі,
Ша... Шасьцяць кажановымі крыльлямі,
Няпрыветнай вітаемся моваю
Мы з асеньнімі казкамі — былямі.

А ці-ж восень і злая й панурая,
Груганьнём панад полем разселася,
Рызманамі зрудзелымі, бурамі
На асінах павісла, на верасе?

Гляньце ў лес: над палямі шырокімі
Сьпяць дубы, як мядзяныя волаты.
Ўкруг бярозы стаяць белабокія,
Сыплюць з косаў расплеценых золата.

Сьпіць і хвойнік туманамі змочаны,
Пахне мохам, лістамі, як ладанам.
І сьціскаецца сэрца няхочачы
Смуткам дзіўным, глухім, неразгаданым.

Гдзе-ж тут страх, кажановыя шэлясты,
Плач савіны, вятругі нэрвовыя?
— Восень смуткам пад лесам кудзеліцца,
Сном кладзецца на вецьце дубовае.

Для мяне яна — блізкая, знаная,
Новай песьняй у сэрца ўціскаецца
І натхненьнямі здаўна чаканымі
Нада мной, як лісьцём, асыпаецца.

1936.

**Міхась Машара**

## РУЧНІКІ

Прала я, ох прала,
Ночанькі ня спала,—
Лянок валакністы.

Пасмамі снавала,
Узор затыкала —
Узор прамяністы.

Пільна, пільна ткала,
Выткаўшы паслала —
Ручнічкі на росы.

Да зары мачыла,
На сонцы сушыла —
Каб былі бялёсы.

Выйшлі на пацеху
Белы бялей сьнегу —
Мякчэйшы за вату.

Выкачала гладка,
Як вучыла матка —
Занясла у хату.

Жыта каласочкі,
З сінім васілёчкам —
Шоўкам нашывала.

Красачак радочкі,
Як дзіцячы вочкі —
Самі аджывалі.

За работай і этай
Прамінула лета —
Лета залатое.

Надходзіла восень,
Больш ня ткала кросен —
Сталася другое.

Сусед нашай хаты,
Прыйшоў з Янкам ў сваты —
Мяне заручаці.

Як ішла да шлюбу
З Янкам сваім любым —
Праводзіла маці.

Жытам абсявала,
Долю заклікала —
Стоячы на ганку.

Вешала на шыю
Ручнічочкі тыя —
Мне і майму Янку.

**Ніна Тарас**

## ПРЫ КУДЗЕЛІ

Эх, мая доля, доля дзяўчыны,
Цяжка застацца адной!..
Помню, любіла.. Казаў — не [пакіне...
Скулі, забралі вясной...

Сьлёзы, сьлёзы...Ныюць грудзі,
Стогне вецер уначы...
Хай-жа ўецца тонка кужаль —
Вераценца, гэй, скачы!

Жала я жыта летам у полі;
(Гнулася раць каласоў),
Блутаўся вецер у сінім [прывольлі,
Мілы да нас ня прыйшоў...

А я жала, жыта жала...
Сэрца плакала ўначы...
Маці скажа — не напрала, —
Вераценца, гэй, скачы!

Жоўтымі лісьцемі сеела восень,
Хмара за хмарай плылі,
Гойдаўся вецер на соннай [бярозе,
Часам канаў у гальлі...

Можа вернецца з вастрогу
Мілы рана ці ўначы,
Пацалую я мілога —
Вераценца, гэй, скачы!...

Вось й зіма прыблукалася [зьнекуль,
Пухам заткала прастор,
Сьвечкай мароз учапіўся за [стрэхі,
Клеіць на шыбах узор.

Ты ня плач у полі, вецер,
Гэтак жаласна ўначы:
Можа міленькі ўжо едзе —
Вераценца, гэй, скачы!

**Максім Танк**

# П І С Ь М О.

Цямнее. Усюды паперы, газэты
і вечар у хаце, і ты
малюеш славамі зялёнае лета
імшары, бярозы, кусты...
Усё гэта ведаў, усё гэта бачыў,
няраз прыслухаўся да шуму лазы,
але з успамінаў умела іначай
ты выткаць свае абразы.
А посьле адходзіла ціха, як шолах,
забраўшы і рэха, і голас, і сны,
і погляд вачэй — недалёкай вясны.

За вокнамі лісьце ўздымалася дымам.
Пра Сако, Ванцэці чыталі ўдваіх
і Горкага „Матку“ і Гігінса Джыма, —
клялася памсьціць ты за іх.
А сяньня?... Ўсё-ж трэба быць трохі мацнейшым.
З вастрогу апошні твой ліст атрымаў
і нэрвы зьвязаць свае думаў я вершам,
якіясь бурлівыя вершы пісаў.
Надвары быў вечар, як чорныя косы,
і зоры, як вочы, і вецер, як сьмех,
і песьні далёкай, песьні адгалосы —
паехала моладзь на доўгі начлег...

На вёсцы ў нас лета мінула... Ў іржышчы
ржавеюць глухія кароткія дні,
а ў лесе дыван рассьцілаецца з лісьця
дзе-недзе яшчэ зеляне сітнік.
Хоць ведаю добра — ня прыйдзеш ты сяньня,
штось цягне, каб выйсьці да сонца з сяла:
на поле шырокае хочацца глянуць,
дзе песьняй скрыпучай дарога лягла.
І сьцеліцца неба знаёмаю хусткай,
вясной яно будзе над полем сінець,
і вернуцца зноў пералётныя птушкі,
і ты мусіш з імі да нас прыляцець!

**С. Хмара**

# Л ё н

Плюхата надвары,
воўкам вецер вые;
хмары скокі ў гары
пачалі ліхія.

Ў сушні праца кіпіць,
церніцы грызуцца;
будзе некалі ніць —
кросны аснуюцца.

Будзе некалі ніць
з белае кудзелі;
выткуць ў зімнія дні
кужалю звой цэлы.

Сэквэстратар вясной
за падаткі, кары,
забярэ увесь звой —
ты-ж — ў сарочцы старой.

# Vialikaja ale zabytaja sprava

Nacyjanalna-adradženskaja praca Biełaruskaha Narodu, apošnimi časami, uva ŭsich badaj halinach žyćcia pryjmaje štoraz šyrejšy i bolšy razmach. Mima adnak šyrokaha postupu, mima taho, što biełaruski ruch źjaŭlajecca siańnia vialikim, masavym i mahutnym, biełaruskija žančyny badaj zusim nia pryjmajuć u im arhanizavanaha ŭdziełu. Dziŭna heta tym bolš, što ŭ historyi svajho adradženskaha ruchu majem mnoha zasłužanych žančyn baraćbitak i paetak, jak Ciotka, Kanstancyja Bujło, i inšyja, a tak-ža što i ciapier jość sapraŭdy vydatnyja adzinki, jak hram ki: L. Vojcikava, N. Arsieńnieva, M. Milučanka i šmat inšych starejšych i małodšych. Jość, praŭda, bieł. žanockaja arhanizacyja, ale jana adnabokaja, achaplaje tolki maleniačkuju častku bieł. žančyn u Vilni i apošnimi hadami nijakaje dziejnaści nie prajaviła. I heta ŭsio dziejecca ŭ nas tady, kali žančyny inšych narodaŭ daskanalna sarhanizavanyja, viaduć šyrokuju hramadzkuju i kulturna-aśvietnuju pracu, zamianiajučy i časta apiaradžajučy mužčyn.

Nia hledziačy adnak na toje, što biełaruskaje žanoctva jość arhanizacyjna adstałym, nia možna skazać, kab jano nie adyhryvała nijakaje pavažnaje roli ŭ biełaruskim žyćci. Bo biełaruskaja žančyna spaŭniaje vialikuju rolu, hadujučy svaich dziaciej u rodnaj movie, upajvajučy ŭ ichnija dušy luboŭ da svaich rodnych pieśniaŭ, zvyčajaŭ, da rodnaha kraju, da svajho narodu, biez čaho sapraŭdy ciažka było-b baranicca ad asymilacyi. Biełaruskaja žančyna tvoryć bahaćcie bieł. narodnaje kultury, vydumvajučy i vytykajučy ŭzorystyja dyvany, pościłki, ručniki, pajasy, nastolniki Biełaruskaja žančyna moža najbolš pryčyniajecca da zachavańnia našaje nacyjanalnaje kultury. Słovam, biełaruskaje žanoctva maje vialikija zasłuhi pierad svajej Baćkaŭščynaj; zasłuhi hetyja adnak pavinny być jašče bolšyja. Dumajem, što *para ŭžo biełaruskim žančynam, asabliva maładym intelihientkam, uziacca za šyrejšuju, arhanizavanuju, biełaruskuju hramadzkuju i kulturna-aśvietnuju pracu*, tym bolš, što maładoje viaskovaje žanoctva — biełaruskija dziaŭčaty — da hetaha imknucca, čaho dokazam jość piśmo dziaŭčat z Horadzienščyny, drukavanaje siolęta ŭ „Šlachu Moładzi", na katoraje, nažal, bieł. dziaŭčaty-intelihientki nie parupilisia dać adkazu...

Redakcyja „Šlachu Moładzi", chočučy pryčynicca da ažyŭleńnia abhavoranych vyšej spravaŭ, padabraŭšy adpaviednyja matarjały, pryśviaciła hety numar „Šl. Moł" *žanocka-dziavockaj biełaruskaj spravie i pamiaci Ciotki*, ad śmierci katoraje minuła sioleta 20 hod. Dziela hetaha pažadana, kab Pav. čytačy jak najšyrej paznajomili z hetym numaram „Šl. Moł." bieł. dziaŭčat.

Niachaj-ža hety numar „Šl. Moł.", a asabliva apisanaja ŭ im dziejnaść słaŭnaje našaje Ciotki pryčynicca da taho, kab biełaruskija žančyny zaniali svajo miesca na nivie hramadzkaje i kulturna-aśvietnaje biełaruskaje pracy.

J. N.

М. Мілючанка.

# Грамадзкая і літаратурная дзейнасьць Цёткі
## (Алёізы Пашкевічанкі—Кейрыс).
*(У 20-тыя ўгодкі яе сьмерці).*

Сёлета мінае 20-ць год, як наша песьнярка пакінула рады барацьбітоў за Ідэю Вызваленьня, а з яе поэтыцкай ліры сарваліся апошнія акорды. На шырокіх прасторах Беларусі зьявілася йшчэ адна дарагая нам магіла. Авангард адраджэнцаў страціў аднаго з найактыўнейшых сяброў. Але



Цётка

жыцьцё і барацьба за Вызваленьне ня спыніліся, а магутнай хваляй паплылі далей. Прыйшлі новыя ідэйныя сілы і павялі далей распачатую Цёткай працу. Споўнілася яе жаданьне — вера: песьня паўстала „з стотысячнай сілай" (в. „Грайка") і абхапіла сабою ўсе куткі бяздальнай краіны. Сяньня-ж адарвемся на хвіліну ад штодзенных працы і клопатаў бягучага жыцьця і схілімся з пашанай над магілай Тае жанчыны, якая найлепшыя свае гады, энтузыязм і ідэйныя парывы прынясла на аўтар Вызваленьня нашае Бацькаўшчыны.

Аддаўшы належную чэсьць яе памяці, пастараемся ўспомніць сяньня яе заслугі, як на грамадзкім, так і літаратурным полі. Што зрабіла Цётка? Што ўнясла ў агульную скарбніцу нашых дасягненьняў на полі барацьбы, пазытыўнай культурнай працы і літаратурнай творчасьці?

Каб лепш зразумець дзейнасьць і творчасьць Цёткі, разгледзім тут хоць некалькі штрыхоў з яе жыцьця.

Радзілася Цётка 3-га ліпня 1876 г. у ваколіцы Пяшчына, Васіліскае воласьці, Лідзкага павету. Бацькі яе былі даволі заможнай шляхтай. Але сям'я была вялікая і дзеля таго трохгадовую Алёізу, разам з яе малодшым братам, аддалі гадаваць дзядом Пашкевічам. Апошнія жылі ў фальварку Тарэсін, сярод густых лясоў. Побач з акружаючым хараством прыроды, не малы ўплыў мелі на выхаваньне дзяцей старая бабуля Цёткі, а таксама нянька Ягася, якая з усіх дзяцей Пашкевічаў найбольш любіла нашую пясьнярку за яе, як казала — добрае сэрца і лагодны характар. Ягася ведала вельмі шмат казак і любіла расказваць іх дзецям. Пад іх уплывам у дзяцей разьвівалася фантазія і ўражлівасьць і яны самі складалі казкі і выдумлялі розныя страхі.

Да 9-х гадоў жыве Цётка ў сваіх дзядоў, дзе навучылася чытаць і пісаць папольску. Бабуля вучыла яе таксама ручных работ, як шыцьця, гафтаваньня, да якіх дзяўчынка ня мела ані ахвоты, ані здольнасьці. Пасьля сьмерці бабкі дзеці варочаюцца да бацькоў, у фальварак Стары Двор. Вучыць дзяцей наймалі прыпадковых вучыцялёў. Апошнія сьцьвярджалі здольнасьць і ахвоту Алёізы да навукі. Бацька аднак абсалютна ня меў жаданьня вучыць далей дачок, уважаючы, што хопіць ім і хатняе адукацыі. Але, відаць, пад уплывам гарачага жаданьня Цёткі вучыцца, бацька прымушаны быў выслаць яе ў 1892 годзе ў Вільню. Выяжджае яна разам з малодшым братам, і пад апекай старэйшае сястры пачынае гатавацца да экзамінаў. У 1894 годзе паступае Цётка ў 4-ую клясу прыватнае жаноцкае гімназіі Прозаравай, якая карысталася тагды вялікім аўтарытэтам сярод жыхароў Вільні. Вучылася Цётка добра. Але ад прыроды слабое здароў'е ды дрэннае аджыўляньне змушалі яе часта хварэць, разьвіваючы бязлітасную анэмію. Будучы ў шостай клясе, Цётка па загаду дактароў была прымушана перарваць навуку і выехаць на вёску, дзе атрымала пасаду вучыцелькі. Пабыўшы год на вёсцы Цётка значна папраўляе сваё здароў'е і ўзноў варочаецца ў гімназію, злажыўшы перад гэтым экзамен на хатнюю вучыцельку. У 1899 г. канчае Цётка сем клясаў гімназіі. Тады выяжджае ізноў на вёску, дзе і далей вядзе вучыцельскую працу. Калі-ж у гімназіі Прозаравай адчыняецца восьмая кляса, Цётка трэйці раз едзе ў Вільню і канчае ў 1901 г. поўны курс

гімназіі. У наступным (1902) годзе скіроўваецца Пашкевічанка ў Пецярбург і паступае на пэдагагічныя курсы Лесгафта, дзе вучыцца да 1904 г. У гэтым годзе і пачынае Цётка, поўная запалу і кіпучае энэргіі, сваю працу на шырэйшым, грамадзкім полі. Яна варочаецца ў Вільню і прыступае да актыўнай працы ў беларускім адраджэнскім руху, уваходзячы ў склад соцыялістычных арганізацыяў. Каб магчы свабадней працаваць, яна ўкрывае сваё запраўднае імя пад псэўдонімам — Цётка.

Якія-ж настроі панавалі тагды ў царскай Расеі, у гэтай вялікай турме паняволеных народаў? Якая атмасфэра, якія кірункі грамадзкай думкі акружалі нашую пясьнярку на парозе яе грамадзкае дзейнасьці? У той час у Расеі наагул, а асабліва сярод студэнцкае моладзі шырацца рэвалюцыйныя настроі. Апошнія сярод паняволеных народаў ідуць поруч з імкненьнямі да нацыянальнага вызваленьня. У Польшчы існавала ўжо Соцыялістычная Польская Партыя, у Літве Літоўская Соцыял-Дэмакратычная Партыя. Такая-ж самая партыя, як у Літве, існавала і ў Латвіі. Усе гэтыя партыі бачылі шлях да волі, да вызваленьня з-пад ярма расейскага царату, праз агульна-дзяржаўную рэвалюцыю.

Беларускія адраджэнцы не застаюцца на раздарожжы, і ў 1903 г. твораць Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду, а гэтым самым выбіраюць сабе рэвалюцыйны шлях да вызваленьня.

Як ведаем, у 1904 г. пачалася расейска-японская вайна. Амаль усё сьвядомае грамадзянства Расеі было варожа настроена ў адносінах да гэтае бойні—вайны. Адначасна старалася яно выкарыстаць вайну дзеля паглыбленьня рэвалюцыйных настрояў сярод масаў. Для ўсіх рэвалюцыйных партыяў, а ў тым ліку і для Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады, адкрылася шырокае і ўдзячнае поле да працы. І вось першая масавая акцыя гэтае першае палітычнае беларускае арганізацыі было паразумленьне з трыма ўспомненымі намі партыямі суседніх, паняволеных народаў і выданьне разам з імі ў чатырох мовах дзьвёх проціваенных адозваў. Як расказвае адзін з сучасьнікаў, — сабралася група беларусоў, сярод іх і Цётка, каб апрацаваць зьмест адозваў у беларускай мове. Пастанавілі, што кожны з прысутных напіша асобна, а потым выбяруць, чыя найбольш заслугоўвае на выданьне друкам. І вось найлепш напісала Цётка. Уложаная ею проціваенная адозва выходзіць беларускім выданьнем у сьвет і тысячамі лісткоў трапляе ў-ва ўсе куткі Беларусі.

Беларуская Рэвалюцыйная Грамада на ўступе свае працы пастанавіла: раней, чым скіраваць свае крокі ў сялянскія гушчы, добра з'арганізаваць беларускіх работнікаў, якія нядаўна пакінулі вёску. Грамада магчыма мела на дум-

цы прыгатаваць авангард, з якім пасьля можна было-б распачаць усьведамляючую працу на шырэйшых прасторах Беларусі.

Цётка выбірае за пункт свае дзейнасьці Вільню і горача прыступае да актыўнае працы. У 1904-5 гадох яна арганізуе тут беларускія работніцкія гурткі, выяўляючы адначасна вялікія арганізатарскія здольнасьці. Усю істоту Цёткі агортвае жар захапленьня надыходзячай Рэвалюцыі, у якой яна бачыць шлях да ўсебаковага вызваленьня масаў і тых адзінак, якія з сваімі сьветлымі, ідэйнымі парываньнямі ня могуць свабодна дыхнуць у скованых царатам шырокіх межах Расеі. Цётка гарыць сама, а адначасна запальвае і другіх, злучаючы заўсёды з ідэяй агульна-дзяржаўнае рэвалюцыі — ідэю беларускую, ідэю нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня паняволенага Народу. Цётку можна было заўсёды спаткаць на ўсіх вялікшых работніцкіх сходах, на міжнародных тайных зборках, дзе яна, разам з Аляксандрам Бурбісам, выступала, як прадстаўнічка Бел. Рэвал. Грамады. Каля яе згуртавалася моцная група ідэйных работнікаў беларусоў, з радоў каторых выйшаў пазьней чарод выдатных грамадзкіх дзеячоў.

Цётка першая распачынае арганізацыю беларускіх жанчын пры Грамадзе. Закладае жаноцкія гурткі, адбывае з імі паседжаньні, стараецца ўсьведаміць, разбудзіць ідэйныя імкненьні, прыгатаваць да працы—барацьбы. У 1905 г. выяжджае Цётка ад імя апошніх на Усерасейскі Зьезд Жанчын у Маскве, каб магчы і там высьвятліць дамаганьні свайго Народу, дамаганьні бягучага жыцьця. Калі-ж у 1905 г. наступае час вялізарных вулічных маніфэстацыяў і мітынгаў, Цётка прыймае актыўны ўдзел у іх арганізаваньні. Выступаючы з шчырымі, гарачымі беларускімі прамовамі, яна будзіць барацьбяны дух і запал сярод работнікаў Вільні.

Запраўды надзвычайную энэргію праяўляе Цётка ў часе сваей нядоўгай працы ў шпіталі Новае-Вялейкі, дзе была санітаркай. Яна знаходзіцца тут у самым цэнтры мясцовых работніцкіх арганізацыяў і карыстаецца вялікай пашанай. Яе рэвалюцыйныя вершы, як „Хрэст на свабоду", „Мора," „Пад штандарам" — ведалі напамяць усе акружаючыя. Вершы гэтыя друкаваліся ў дзесятках тысячаў экзэмпляраў, ды ня толькі Бел. Рэвал. Грамадою, але і іншымі, ўспомненымі намі ўжо, партыямі. Надыходзіць 1906 г., год чорнае палітычнае рэакцыі па ўсёй Расейскай Імпэрыі. Усё жывое, усё ідэйнае, бязлітасна здушваецца азьвярэлымі паслугачамі царскага трону.

Гэты год замыкае рэвалюцыйны пэрыад у грамадзкай дзеяльнасьці і творчасьці Цёткі. Апошнім яе выступленьнем на рэвалюцыйным шляху — гэта актыўны ўдзел у закла-

дзінах першага легальнага беларускага часапісу: „НашаДоля.“ Цётка і тут вельмі яскрава праяўляе свой рэвалюцыйны запал. Яна зьмяшчае сваё невялікае, праўда, сымбалічнае апавяданьне пад загалоўкам: „Прысяга над крывавымі разорамі,“ дзе выказвае глыбокую веру ў перамогу працоўных, народных гушчаў. Але першы нумар „Нашае Долі“ назаўтра-ж пасьля выхаду ў сьвет канфіскуецца ўладамі, а цётка, уцякаючы ад судовага абвінавачаньня за працу 1904-5 гадоў прымушана пакінуць Вільню і выехаць заграніцу. Цётка апынаецца ў Львове, дзе была шчыра спатканая украінцамі. Тут яна паступае ў унівэрсытэт на гістарычна-філёлёгічны факультэт і вучыцца некалькі гадоў. За тэму для свае дакторскае працы выбірае апрацоўку беларускіх батлеек. З мэтаю далейшае контынуацыі свае працы яна пераяжджае пазьней ў Кракаў.

Новы пэрыад у жыцьці Цёткі — пэрыад эміграцыі, быў вельмі цяжкі. Бязмежны сум па родным краі, дзе colькі палажыла энэргіі і працы, агортвае ўсю яе істоту, не дае ёй супакою. Будучы далёка на чужыне, яна ня можа і на хвіліну забыцца аб родных гонях, уяўляючы іх сабе ў чароўным харастве і выліваючы сваю тугу і сумаваньне ў радкох вершаў. Урэшце, у 1910 г., ня гледзячы на пагражаючую ёй небясьпеку з боку ўладаў, Цётка варочаецца на Бацькаўшчыну. У 1911 годзе яна выходзіць замуж за ведамага літоўскага дзеяча, інжынера Сьцяпана Кейрыса, які належаў да Соцыял-Дэмакратычнага лагеру. Зьмена прозьвішча дае магчымасьць Цётцы кінуцца ізноў у вір беларускага, грамадзкага жыцьця.

Паварот Цёткі з заграніцы прыпадае якраз на новы пэрыад у беларускім адраджэнскім руху. Пасьля здушэньня царскім урадам рэвалюцыі, беларускія адраджэнцы распачынаюць творчую працу на культурна-нацыянальным полі. Цэнтрам гэтае працы становіцца наступніца „Нашае Долі“ — „Наша Ніва.“

Адчуваецца моцная патрэба беларускае друкаваны кніжкі. І вось выдавецтва „Нашае Нівы“ ў Вільні ды выдавецкая супалка „Загляне сонца і ў наша ваконца“ у Пецярбурзе прыступаюць да працы. У хуткім часе выходзяць з друку творы старых, беларускіх пісьменьнікаў, а таксама і новых, як Янкі Купалы, Якуба Коласа і інш.

Аднача сна ў Пецярбурзе пачынае выходзіць паважны часапіс пад назовам „Маладая Беларусь,“ аснаўным заданьнем каторага было паглыбіць, скрысталізаваць нацыянальную сьвядомасьць.

На парадку дня стаяла йшчэ важнае, падставовае пытаньне, гэта пытаньне беларускае школы. Але дзеля правядзеньня яго ў жыцьцё, патрэбны былі беларускія падручнікі. І тут успомненыя беларускія выдавецтвы стараюцца

выпаўніць гэтыя аснаўныя заданьні. У першы чарод друкуюць беларускія лемантары, а потым чытанкі для дзяцей рознага веку і рознага разьвіцьця.

На ўсе гэтыя пачынаньні беларускіх адраджэнцаў горача адклікаецца Цётка, хоць і аддзелена ад іх гранічнай мяжою. Яна прыступае да апрацоўкі школьных чытанак, а вярнуўшыся з чужыны рэдагуе дзіцячы часапіс „Лучынку."

У галіне разьвіцьця нацыянальнага тэатру, гэтага вялікага мотару ў адраджэньні кожнага народу, Цётка таксама не застаецца бяздзейнай. Яе бязупынная, кіпучая энэргія і тут знайшла сабе адпаведную працу. У Пецярбурзе наладжвае яна беларускія спэктаклі і вечарыны, сама іграе на сцэне і выконвае нацыянальныя скокі. Як прыпамінае адзін з яе супрацоўнікаў, Цётка дэклямуе нават на аднэй (ці можа і больш) з такіх вечарын свае ўласныя вершы, здаецца „На чужой старонцы" і „З чужыны".

Не забывае Цётка і работнікаў — беларусоў, якія тысячамі пакідалі Бацькаўшчыну і скіроўваліся ў Пецярбург на заработкі. Яна стараецца падзяліцца здабытаю ведаю з сваімі братамі—сярмяжнікамі ў гарадзкіх работніцкіх кутках, вядучы сярод іх культурна-асьветную працу.

З Пецярбургу прыяжджае Цётка на нейкі час у Менск, дзе стараецца наладзіць першыя беларускія школы. Потым скіроўваецца яна ў Вільню, дзе яе і застае сусьветная вайна. Але Цётка і цяпер ня можа дазволіць сабе на адпачынак. Яна ня можа быць бяздзейнай тагды, калі тысячы яе братоў уміраюць і церпяць нялюдзкія мучэньні пад градам куляў і гранатаў жудаснай бойні—вайны. Жадаючы прынесьці ім хоць крыху палёгкі, Цётка паступае ў сёстры міласэрдзя і ня гледзячы на небясьпеку, дапамагае раненым на палёх барацьбы. Каб мець магчымасьць застацца ў Вільні, яна бярэцца за ня менш небясьпечную працу ў бараку хворых на тыфус, дзе і працуе да апошніх дзён панаваньня тут расейскае ўлады. Сярод хворых было шмат беларусоў. Цётка, поруч з сваей мэдычнай помаччу, нясе ім словы духовага падтрыманьня, вядзе беларускую ўсьведамляючую працу.

Найлепшаю падзякай Цётцы, доказам яе самаахвярнасьці, былі лісты, у вялікай колькасьці атрымоўваныя ею ад пакінуўшых барак жаўнераў, якія апынуліся ізноў на фронце, або выехалі да хаты. У гэтых лістох апошнія горача дзякавалі Цётцы за яе помач у часе іх хваробы. за шчырае падтрыманьне ў хвіліны духовай зьнямогі, а таксама за словы ідэйнага ўсьведамленьня. Перад самым адыходам расейцаў з Вільні Цётка, ня хочучы, каб яе вывязьлі разам з хворымі недзе ў глыб Расеі, папрасіла ўрлёп. Дзякуючы апошняму яна застаецца ў Вільні, каб весьці ня менш адказную, ідэйную, беларускую працу ў часы надый-

шоўшай нямецкай акупацыі. Цяжкая гэта была праца, асабліва, калі возьмем пад увагу, што большая частка тутэйшых дзеячоў апынулася на Усходзе. Але паміма гэтага, нявялікая, праўда, колькасьць беларускіх адраджэнцаў пачала ў Вільні, а потым і на правінцыі энэргічную працу ў галіне наладжваньня беларускага школьніцтва. І тут Цётка апынаецца ў ліку першых працаўнікоў. Яна зьбірае дзяцей у школьным веку, вышуквае адпаведных вучыцялёў, сама выкладае ў школах і кіруе іх працай. Ня менш актыўны ўдзел бярэ яна і пры адчыненьні Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў у Вільні. Пасьля іх заснаваньня Цётка, як былая студэнтка пэдагагічных курсаў (ды працаваўшая, як вучыцелька, яшчэ перад сканчэньнем гімназіі) прыступае да выкладаньня пэдагогікі, гігіены і іншых прадметаў. І тут, як некалі ў Пецярбурзе, не забывае Цётка і віленскіх работнікаў, сваіх даўнейшых знаёмых і прыяцеляў, яшчэ у 1904—1906 г. Яна знаходзіць час, каб вясьці і сярод іх працу, уваходзячы разам з другімі ў склад Беларускае Соцыял-Дэмакратычнае Работніцкае Групы.

Але ўжо нядоўга прыйшлося Цётцы папрацаваць на грамадзкім грунце ў часе нямецкае акупацыі. У пачатку 1916 году, у фальварку Стары Двор, Лідзкага пав. памірае яе бацька. Цётка едзе туды, хавае яго, але, як скрозь і заўсёды, ня можа і хвілінкі ўседзяць бяз працы. Яна адважна аб'яжджае вёскі, ахопленыя эпідэміяй тыфусу, каб даць справаздачу ў Вільні і прасіць мэдычнай і матэр'яльнай дапамогі. Адначасна сама даглядае хворых, ратуючы не аднаго ад прадчаснай сьмерці. Але ня суджана ўжо было Цётцы вярнуцца ў Вільню, дзе столькі маладых сіл і барацьбянага запалу палажыла на аўтар безінтэрасоўнай, ідэйнай, грамадзкай працы. Дапамагаючы хворым, яна сама заразілася тыфусам. Бязупынная, цеаразмерная праца і аслабеўшы ад даўно пачаўшыхся сухотаў арганізм ня змог ужо бароцца з тыфусам і ў начы з 4-га на 5-га лютага Цётка памірае. Пахавалі яе ў Старым Двары, на ўзгорку, за садам ля дарогі.

Але йшчэ была ў дзейнасьці Цёткі адна галіна творчае працы, якая перажыла яе і будзе жыць сярод Беларускага Народу, прыпамінаючы яму ўсе заслугі і слаўнае імя песьняркі— барацьбіткі.

Гэта галіна яе літаратурнае творчасьці, да разгляду якое мы і пяройдзем у наступным нумары.

(Заканчэньне будзе ў наступным нумары).

Žalejka

# Ščaście Alenki*)

Nie, nia viedaŭ nichto, skul paŭstała jana,
Heta dumka niabios i ziamli.
Ech, ubrali jaje śvietły maj i viasna,
Z złatableskaŭ chmurynku splali.
— — — — — — — — — — —
I chałodny vichor, hurahan, suchaviej,
Hetu dumka — krasuniu čapiŭ,
Latucieńni jaje, radaść śvietłych nadziej
Pałamaŭ, pabiŭ, pakryšyŭ.

Apošniaja radaść leta błudziła jšče pa vioscy. Jašče śmiajałasia ciopłaj kasulaj sonca i śpiavała na łuhoch razam z pčołkami, źbirajučymi apošni miod. Ale pieršy sum vosieni jšoŭ užo cichačom sa starany biazmiežnych, pažatych paloŭ, rasściłajučysia tonieńkaj pražaj, pa pableкłych i pažoŭkłych drevach. Zaharaŭsia pa sadoch i harodach chałodnym połymiem, a čornym kryłom pałochaŭ ptuški z rodnych staronak i hnaŭ u čužyja... Ŭsia pryroda pamału zasynała i zacichała...

---

Sum vosieni aharnuŭ Alenčynu dušu i zhasiŭ u jaje radaść haračych załatych dzion. U hrudziach jejnych niespakojna i baluča biłasia serca, byccam ptuška z pałamanymi kryllami. Byccam ptuška kinienaja i niazdolnaja lacieć u kraj sonca i žyćcia... — Dzie dumki manić krasa, dzie burliva, kipuča ciače krynica žyćcia.

Tuha nieabniatnaja čaplałasia Alenčynaha serca i kusała, hryzła vostrymi zubami i hudzieła ŭ hałavie, jak šalony vichor.

Najčaściej-ža prychodziła heta ŭviečary, kali sonca dahasała kryvava-balučym koleram. Śvistała tady ŭ hałavie, śvistam adychodziačaha ciahnika i zakryvała vočy čornaj chmaraj hryzučaha dymu. Zdavałasia tady maładoj dziaŭčynie, što heta tuha vyryvaje serca z hrudziej i vałače ŭśled za ciahnikom, pa čornych rejkach tudy, dzie za sotkami kilametraŭ žyvuć daŭno pakinienyja ŭsie jejnyja vialikija dumki, maładyja latucieńni i nadziei...

---

Sonca chavałasia za ciomnym lesam. Vasieńni sum błudziŭ pad šerymi strechami chat... Schilaŭsia nad Alenčynym sercam i braŭ jaje ŭ chałodnyja abojmy.

---

Ciamnieła ŭžo, kali vysłanaj liściem darohaj hnaŭsia z radaściaj vialikaj małady chłapiec. Byŭ heta Michaś, bahaty, pryhožy dziaciuk — latucieńnie ŭsich dziaŭčat. — Jechaŭ u svaty. Zabyŭsia jon ab usich bahatych z pasahami i jechaŭ da biednaje Alenki, vysokaja i strojnaja fihurka katoraje, byccam

---

*) Novelka heta była prysłanaja ŭ 1935 h. na litaraturny konkurs „Šlachu Moładzi" i była adznačana kankursovym sudom. Pad pseŭdonimam „Žalejka" skrytaja adna z maładych pačynajučych biełaruskich piśmieńnicaŭ.

biarozka stajała jamu ŭ vačoch i hladzieła poŭnaja sumu i hłybokich tajomnych dumak... U vačoch jaje hareŭ kaliś niejki dziŭny ahoń, jaki asabliva ŭzmahaŭsia tady, kali Alenka vyjaždžała vučycca ŭ miesta dy pryjaždžała nazad u viosku na leta. Čakali, byvała, takoj chviliny Michaś i ŭsia vakoličnaja moładź, bo tady pačynałasia novaje žyćcio... Novyja knižki, novyja pieśni, śviežaja radaść i dumki. Ale ad času, jak z pryčyny bolšaj biady ŭ baćkaŭskaj chacie, Alenka pierastała vučycca, žyćcio choć nia spyniałasia, adnak prycichła. I vočy maładzieńkaj dziaŭčynki haśli, byccam zaciahvalisia ciomnaj chmaraj.

Michaś prosty, mała aśviečany dziaciuk, razumieŭ jejnyja daremnyja latucieńni. Škadavaŭ jon Alenki, ale adnačasna ŭ jahonym sercy radziłasia radaść, bo kab dziaŭčyna končyła navuku, stałasia-b dla jaho tolki niedasiažnaj zorkaj... A jon Alenku kachaŭ. Viedaŭ, što heta dobraja, vialikaja duša, što jana pracavitaja, byccam pčołka, dy što ŭmieje ŭsio zrabić.

Jechaŭ tady Michaś u svaty, bo i maci staraja štodzień kazała: „žanisia, synok“. Dumki jahonyja poŭnyja nadziei, ale serca niespakojnaje.

---

Viasioły homan zvanočkaŭ, jak radasny małady śmiech, razsypaŭsia ŭviečar pa cichoj vulicy vioski i skanaŭ prad staroj chataj Alenčynych baćkoŭ.

Za niekalki minut usie baby ŭ vioscy pavychodzili na parohi svaich chat i adna druhoj kazali: „Michaś pryjechaŭ da Alenki ŭ svaty“, dy dalej pavažna kivali hałovami, šepčučy: „ščaślivaja dziaŭčyna”. — U poznuju-ž noč usie dziaŭčata biassonna dumali taksama, jak i staryja ichnija matki.

Spali ŭžo ŭsie, jak viasioły homan zvanočkaŭ zacich u dalokim poli. Alenka-ž — „ščaślivaja dziaŭčyna“ šyroka raskrytymi vačyma hladzieła ŭ čornuju noč, dzie za voknami błudziŭ sum vosieni. Zacichła jejnaje buntarnaje serca i burlivyja dumki. Alenka ciapier ab adnym tolki dumała: što voś pojdzie zamuž za Michasia, bahataha, razumnaha i pryhožaha chłapca. Nia budzie ŭžo maci kazać joj horkich, balučych słoŭ, i nia budzie sumavać nad jejnaju dolaju. Nia buduć užo bajacca i baćki, što Alenka adkinie mo’ heta ščaście...

Prymusić Alenki nichto nia moh, adnak treba było zhadzicca. Bo hetyja baćkaŭskija sercy blizkija, choć nie razumieli dušy, ale ščaścia dla svajho dziciaci, jak soniejka vyhladali.

„Marny budzie chleb z tvaje navuki, i zdaroŭje zmarnujecca ŭ štodziennaj baraćbie z hoładam i niavyhodaj“... — kazała matka. — I Alenka zhadziłasia.

Idzie zamuž za bahataha i miłaha Michasia. Ale ŭ ciemry načy nie Michasiovyja vočy milhajuć prad Alenčynymi vačyma. Z dalokaha miesta, z-za sotkaŭ kilametraŭ pierapłyvali šeryja, bliskučyja vočy studenta Januka. U cišy načy sałodka šapočuć jahonyja słovy i dryžać, jak asinovyja, miakkija listočki

—„Ci ja viedaju, Alenačka, skul hetyja dumki znajšlisia ŭ našych dušach... Moža viecier našych rodnych paloŭ ich pasiejaŭ, kab razćvili?... Mo' naradzilisia z hetych tužlivych pieśniaŭ, katorymi prad hadami matki nas kałychali... Mo' z hetaha naradzilisia našyja dumki-kraski...

Cichańka płyli darahija słovy ščaślivaj viasny... A miesiac i zory haśli ŭžo na niebie... Haśli i šeryja vočy, schavanyja ŭ hrobie latucieńniaŭ maładoj dušy.

Pačynaŭsia novy dzianiočak...

Sonca ažyŭlała śviet i hladzieła ŭ Alenčyna vakno, jak viečnaje, ščyraje i radasnaje kachańnie...

---

Rasa

## HYMN

Pali, vioski, lasy. harady—
Krasa našaj śviatoj Biełarusi;
Serc miljony narod maŀady
Na aŭtar joj składaje mahučy.

Naš kraj volny pasłaŭsia ŭšyr.
Ad uschodu da zachadu sonca,
Dzie kališ byŭ amšar i pustyr,
Hrymić hymn adrodžanaj staroncy.

My arły maładoje siamji —
Našy dušy ahniami zality;
Burnaj chvalaj napierad idziom,
Rassiavajem ukruh ahniaćviety.

Poklič-hrom abudziŭ ŭvieś narod
Paśla čornaha snu viekavoha
Sabralisia ŭsie u pachod
Ściah spatkaci žyćcia maładoha.

My nia spuścim ŭ biazdziejnaści ruk,
Muram stanie na rodnaj hranicy,
Sakaliny padyjmiem uzrok
Na parozie haračaj zarnicy.

---

**Braty! Ci pravodzicca ŭ Vas školnaja akcyja i ci robicie Vy ŭ hetym kirunku jakija-niebudź zachady? —'Pomnicie, što rodnaja biełaruskaja škoła paviadzie nas da lepšaj budučyni. Kožny biełarus pavinien damahacca biełaruskaje škoły!... Infarmacyi, instrukcyi, druki i farmulary na žadańnie vysyłaje biaspłatna Školny Sakratarjat: Wilno, Karaleŭskaja 3—8.**

---

## U BIEŁ. STUDENTAŬ

— 24.X sioleta adbyłasia ŭ Biełaruskim Studenckim Sajuzie ŭ Vilni (Zavalnaja 1) harbatka dziela supolnaha zaznajamleńnia siabroŭ i sympatykaŭ BSS.

— 25.X u bieł. studenckim T-vie Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pry Vil. Universytecie Ks. V. Hadleŭski pračytaŭ referat na temu: „Ab žarołach da historyi Biełarusi".

— 31.X adbyŭsia ŭ BSS dyskusyjny viečar na temu: „Ab h. zv. kampleksach (pačućci) nižšaści ŭ biełarusaŭ". Referavaŭ hetu spravu stud. J. Kalicki. Rabiŭ heta vielmi płytka, a pry tym abražaŭ patryjatyčnyja pačućci i niezaležnickija imknieńni ŭsich Biełarusaŭ. Hetym samym jon faktyčna choć vykazvaŭsia prociŭ taho, što Biełarusy pačućcio nižšaści majuć, sam byŭ jarkim zapiarečańniem svajho-ž ćvierdžańnia. Treba pry hetym skazać, što vyjavili tak ža pačućcio nižšaści i tyja, što zhadžalisia z im, abo što navat słuchajučy, nie zapiarečyli jahonym absurdam.

— 7.XI u zali Ukrainskaha Studenckaha Sajuzu ŭ Vilni adbyłasia biełaruska-ukrainskaja studenckaja viečaryna.

— 8.XI u BSS stud. Ul. Decyk (ukrainiec) pračytaŭ infarmacyjny referat ab žyćci i pracy Ukrainskaha Narodu.

— 15.XI staršynia BSS stud. M. Ščors pračytaŭ u Ukrainskim Stud. Sajuzie ŭ Vilni referat ab damahańniach biełarusaŭ rodnaje škoły. — Hetaja i papiarednija dźvie viestki havorać nam ab tym, jak biełaruskija i ukrainskija studenty ŭ Vilni supolna pracujuć nad biełaruska-ukrainskim zbližeńniem. My pracu hetu horača padtrymlivajem i žadajem pamysnaha raźvićcia jaje i karysnych dy pryhožych pładoŭ.

— 8.XI u T-vie Pryjac. Biełarusaviedy (u zali 6-taj hał. budynku Vilen. Universytetu) bieł. paet mgr. Chv. Iljaševič čytaŭ svaje novyja vieršy, raskazy i niekatoryja raździeły z niadaŭna napisanaha ramanu «Tuman».

— 10. XI adbyŭsia ŭ BSS dyskusyjny viečar na temu ab ideolohii biełaruskaha studenctva. Referentam byŭ stud Milancevič, katory zadańnie svajo vykanaŭ vielmi niaŭdała i abraziŭ niekatorych siabroŭ uradu BSS, za što paśla ŭrad Sajuzu ustrymaŭ jaho ŭ pravoch siabroŭstva ŭ BSS. Ahułam dyskusija na henym viečary była vielmi haračaja, ale płytkaja i nie na temu.

— 14.XI u BSS čytaŭ referat ab Słuckim Paŭstańni, jakoha sioleta prypadajuć 16-ja ŭhodki, inž. S. Busieł—učaśnik henaha paŭstańnia. Hety-ž referat 15.XI siol. čytaŭ inž. S. Busieł u Bieł. Vil. Himnazii, dzie biełaruskija skaŭty ładzili akademiju ŭ češć sioletnich uhodkaŭ Słuckaha Paŭstańnia.

—15.XI stud. V. Tumaš čytaŭ u BSS referat ab Darviniźmie.

—21.XI jznoŭ adbyŭsia ŭ BSS dyskusyjny viečar ab ideolohii bieł. studenctva. Referentam byŭ stud. Saroka, jaki moh-by chiba lepš apanavać sabrany matarjał.

## CHRONIKA

### Z biełaruskaha žyćcia

**Memoryjały BIHiK i TBŠ.** Centralnyja ŭłady Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury i T-va Bieł. Škoły vysłali staršyni polskaha ŭradu hien. Słavoj Składkoŭskamu memoryjał u spravie biełaruskaha školnictva i pazaškolnaj aśviety, a tak-ža memoryjał da Mitrapalita Pravasłaŭnaj Carkvy ŭ Polščy ŭ spravie navučańnia dziaciej relihii ŭ škołach pabiełarusku. U hetych spravach i ad hetych arhanizacyjaŭ vybirajecca ŭ Varšavu adumysłovaja delehacyja da Premjera i da Mitrapalita Dzianisa.

**U česć pamiaci K. Svajaka i Jadvihina Š.** Sioleta 1.XI, na Zaduški, na katalickich mohiłkach Rossa ŭ Vilni, nad mahiłami biełaruskich paetaŭ K. Svajaka i Jadvihina Š. biełaruski chor vykanaŭ niekalki biełaruskich pieśniaŭ, jakich słuchaŭ vialiki natoŭp narodu.

**Śviatkavańnie jubileju Kołasa i Dnia Biełaruskaje Kultury.** Daviedvajemsia, što ŭ chutkim časie Biełaruski Instytut Haspadarki i Kultury i T-va Bieł. Škoły majuć naładzić u Vilni śviatkavańnie 30 tych uhodkaŭ litaraturnaje tvorčaści Jakuba Kołasa i Dnia Biełaruskaje Kultury.

**Viečar paśviačany Ciotcy.** Z pryčyny prypadajučych sioleta 20-tych uhodkaŭ śmierci Ciotki, Vilenski Addzieł Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury ładziŭ u svajej zali viečar, paśviačany pamiaci hetaj słaŭnaj biełaruskaj dziejački i paetki. U časie viečaru cikavy i cenny referat ab dziejnaści Ciotki pračytała absolventka Vil. Universytetu hram-ka M. Milučanka, paśla stud-ka Suchaja, mgr. J. Chvorast i inš. pryhoža deklamavali vieršy Ciotki, a ŭ kancy piejaŭ, jak zaŭsiody pamastacku, bieł. chor pad kiraŭnictvam hram. R. Šyrmy. Ludziej było mnoha, tak što ŭsio pamieškańnie BIHiK było pierapoŭniena.

**Biełaruskaja audycyja ŭ Polskim Radyjo.** 30.XI siol. biełaruski chor pad kiraŭnictvam hram. R. Šyrmy prapiaje ŭ Polskim Radyjo ŭ Vilni 10 biełaruskich narodnych pieśniaŭ, katoryja buduć pieradany na ŭsie polskija radyjo-stancyi. Pačatak a hadz. 21-taj (9-taj uviečary).

**Nia pryjmajuć da viedama.** U kancy m-ca kastryčnika siol. Hał. Uprava T-va Bieł. Škoły atrymała paviedamleńnie, što vilenskija administracyjnyja ŭłady nia pryniali da viedama pastanovaŭ apošniaha ahulnaha schodu TBŠ, jaki adbyŭsia 5-ha lipnia 1936 h. Hał. Uprava TBŠ adklikajecca ŭ hetaj spravie da vyšejšych polskich uładaŭ.

**Hurtok BNA ŭ Vilni.** 3.XI siol. ŭ Vilni zasnavaŭsia hurtok Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia — BNA. U kamitet hurtka vybrany: mgr. J. Šutovič—staršynia, B. Mardas—skarbnik i Ad. Dasiukievič — sakratar.

*Рэдагуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

**Sprava kaścioła dla biełarusaŭ katalikoŭ u Vilni.** Na prośbu delehacyi Bieł. Kat. Akcyi arcybiskup R. Jałbžykoŭski abiacaŭ dać biełarusam-katalikom kaścioł šv. Hanny ŭ Vilni. Adnak-ža kaścioła henaha biełarusy dahetul nie atrymali dziela taho, što rektaru kaśc. šv. Hanny zajavili polskija nacyjanalistyja, što kali jon addaść biełarusam hety kaścioł, to jany zrobiać u kaściele na biełarusaŭ pahrom. Voś da čaho dachodzić, i da čaho davodzić dziki nacyjanalizm palakoŭ... „katalikoŭ"..

Treba skazać, što pravasłaŭnyja biełarusy ŭ Vilni, choć nievialikuju, Piatnickuju, carkoŭku sabie majuć, a biełarusy kataliki, dziakujučy tolki haścinnaści bratoŭ Litoŭcaŭ, mohuć i molacca ŭžo 15 hadoŭ u rodnaj biełaruskaj movie, u ichnim kaściele šv. Mikałaja ŭ Vilni.

**Kanfiskata i zvarot biełaruskich adryŭnych kalendaroŭ na 1937 h.** Biełaruskija adryŭnyja kalendary (hraždankaj i łacinkaj) na 1937 h., ab vychadzie jakich pisali my ŭ prošłym numary „Śl. Moł.", byli 23.X skanfiskavany admin. uładami. Dziela taho adnak, što Sud zaćvierdziŭ kanfiskatu tolki 2-ch kartačak, uvieś nakład kalendaroŭ uspomnienyja ŭłady źviarnuli vydaŭcom, katoryja ŭparadkavaŭšy kalendary, puścili ich užo na rynak. Cana adnaho kalendara 50 hr. Kupić ich možna ŭsiudy i ŭva ŭsich kalendarnych pradaŭcoŭ. Hałoŭny skład u biełaruskich kniharniach u Vilni.—Kožny biełarus, biazumoŭna, pavinien mieć u svajej chacie biełaruski kalendar.

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

*М. Машара*—**Мамчына Горка**. Поэма. Выд. „Калосься" Вільня 1936 г. Бач. 56. Фарм. 8⁰. Цана 50 гр.

Паэму „Мамчыная Горка" трэба лічыць бадай за найлепшы твор Міхася Машары. Сюжэт яе: трагічнае каханьне дачкі графа Лапаты — Даруты з сынам свае мамкі — Янкам — цікавы, жывы і чытача трымае ў напяцьці зацікаўленьня. Апісаньне прыроды Беларусі, дэспота Лапаты, які закопвае мамку жыўцом у зямлю, а так-жа іншых мамэнтаў перажываных Янкам і Дарутай — мастацкае. Агулам гаворачы, „Мамчына Горка", ня гледзячы на тое, што некаторыя нашыя літаратурныя знатакі дашукваюцца ў ёй тэхнічных недахопаў, ёсьць творам вельмі цікавым і прыгожым. Нямала ў ёй можна знайсьці і мамэнтаў глыбока патрыятычна-беларускіх. Зьмест „М. Г." ёсьць нават да пэўнай меры падабенствам да пачаткаў беларускай гісторыі.— „Мам. Горка" можа быць так-жа добрым лібрэттам для беларускае опэры.

**„25 Сакавіка"**. — Пад гэткім назовам нядаўна ў Вільні група беларускіх студэнтаў пачала выдаваць часапіс, кірунак якога характэрызуе ўрывак з першага артыкулу, у якім сказана гэтак: „Проціўдзеючы марксоўскай і фашыстоўскай ідэолёгіі, як чужацкім і варожым концэпцыям імпэр'ялізму, беларускае студэнцтва прызнае за прынцып свайго дзеяньня хрысьціянскую ідэолёгію, поўнае дэмократыі, у якой няма слабых і сільных, перамагаючых і пераможаных, багатых і бедных, але ёсьць Беларус роўны і вольны"...—Рэдактарам і выдаўцом „25 Сакавіка" ёсьць студ. В. Папуцэвіч.

## USIAČYNA

— 10.XI siol. Prezydent Polskaje Dziaržavy mianavaŭ hien. Rydza-Śmihłaha maršałam Polšču. — Hazety pišuć, što byccam hrupa pasłoŭ, na čale z hien. Želihoŭskim, dumajuć zračysia mandataŭ u polski sučasny sojm, bo nia chočuć być „malavanymi pasłami i brać darma hrošaŭ".
— Na ŭsich badaj vyšejšych školach u Polšču apošnimi časami adbyvalisia i adbyvajuca prociŭžydoŭskija zabureńni. Takija-ž zabureńni i asabliva vostryja adbyvalisia i na Vilenskim Universytecie. Pry hetym studenty i inšyja adzinki, jakija dałučylisia da studenckich demanstracyjaŭ, mnoha pabili šybaŭ u žydoŭskich kramach. Było raniena niekalki žydoŭ. U niekatorych miascoch dachodziła navat za kryvavych bojek z palicyjaj, u časie katorych byli ranienyja, jak sa starany demanstrantaŭ, tak i sa starany palicyi-

— U Hišpanii kanca chatniaje vajny dalej nia vidać. Ciapier adbyvajucca zaŭziatyja bai za Madryt, jakoha niekatoryja pradmieści zaniali ŭžo paŭstancy.

— U Złuč. Št. Paŭnočnaje Ameryki niadaŭna adbylisia vybary prezydenta. Ahramadnaj bolšaściu hałasoŭ vybrany prezydentam kandydat demakrataŭ, dahetulašni prezydent Ruzvelt.

— Sioleta minaje 300 hod, jak u Eŭropie pajavilasia harbata („čaj"), a 536 h. jak pajaviŭsia cukar.

— Kala vostrava Javy raźbiŭsia halandzki karabiel, pryčym patanuła 72 asoby.—U Francyi ŭzarvałasia fabryka porachu i z hetaj pryčyny mnoha było ludziej zabitych i renienych. —U Japonii vada razarvała tamu i zaliła vialikija abšary. Zhinuła kala 1000 asob.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

P. Łastaŭcy: Atrymali, ščyraja padziaka i pryvitańnie!...

A. Śpirydovič u: Atrymali, dziakujem. Karespandencyju nadrukujem. Inšyja matarjały taksama budziem staracca vykarystać.

J. Pitušcy: Hrošy i piśmv atrymali, dziakujem. Karespandencyju nadrukujem.. Siabroŭski bilet u chutkim časie budzie vysłany.

P. Ram — čuku: Vieršy słabyja i da druku nie padchodziać, i pisać ich bolš Vam nia radzim.

Kryzie: Prysłanyja vieršy budziem staracca vykarystać u nastupnych numaroch.

L. Burałomu: Pakinienyja nam matarjały budziem staracca drukavać u nastupnych numaroch.

Kamaroŭskamu: Adkaz piśmom vysłany.

Mał. Biezrab. Biełarusu; Artykuł Vaš nadrukujem u № 12.

J. Pupko i Dudziejku ŭ Pružanach: „Šl. Moł.„ vysyłajecca Vam akuratna ad № 1 za 1936 h. Ad siabie ŭ hetaj spravie padajom skarhu ŭ Dyr. P. i T.